# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


«МОЖА, ХТОСЬЦІ



І З'ЯЗДЖАЕ, АЛЕ ТУТ НАШЫЯ МАГІЛЫ»

СТАР. 4–5

"ЛАЙТСАЎНД": "НАС ЗНЯЛІ З УСІХ ТЭЛЕВІЗІЙНЫХ ЭФІРАЎ"



СТАР. 6

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 05.07.12-11.07.12 г.

# «ПОСЛЕДНИЙ ПАРАД НАСТУПАЕТ…»

**Святкаванне 3 ліпеня гэтым разам несла адбітак няўпэўненасці кіраўніцтва Беларусі ў заўтрашнім дні.**




*Дзіўны ў нас дзень Незалежнасці*

Кіраўнік Беларусі паспрабаваў патлумачыць эканамічную палітыку, якая ажыццяўлялася з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя:

- Мы попытались перейти к новой рыночной экономике постепенно, без шока, без потрясений и с минимальными потерями. В середине 90-х годов эта задача казалась нерешаемой, но все вместе мы доказали, что это возможно.

Пытанне, у якой ступені цяперашнюю беларускую эканоміку можна лічыць рынкавай, застаецца дыскусійным. Аднак "без потрясений" у любым разе не атрымалася. Дастаткова прыгадаць леташнюю рэкордную дэвальвацыю. Шмат хто лічыць, што эканоміка Беларусі дагэтуль застаецца нерэфармаванай. Такім чынам, атрымалася не "тэрапія без шока", а "шок без тэрапіі".

Таму ў чэрвеньскім апытанні, якое ладзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследванняў, 77% беларусаў заявілі, што краіне патрэбныя перамены. І хоць улада ніколі не прызнае гэтыя лічбы, упэўненасці яны кіраўніцтву дзяржавы не надаюць.

Магчыма, сведчаннем таму з'яўляецца чарговая згадка Лукашэнкі пра "каляровыя рэвалюцыі", якія, паводле ягонай думкі не маюць перспектывы ў Беларусі. Здавалася б, навошта тады ізноў згадваць гэтую тэму? Відаць, верагоднасць такога сцэнара працягвае хваляваць Лукашэнку, нягледзячы нават на эканамічную стабілізацыю, часовую і адносную.

Тыя ж перамены, што ўлада здольная прапанаваць грамадзянам, зводзяцца да перапранання кіраўніка дзяржавы з вайсковай формы ў цывільную і каментар да трансляцыі парада па афіцыйных тэлеканалах на беларускай мове.

Наогул, атмасфэра святкавання няўлоўна нагадвала знакамітую песню:

*Наверх, о товарищи,*
*все по местам!*
*Последний парад*
*наступает!*
*Врагу не сдается*
*наш гордый «Варяг»,*
*Пощады никто*
*не желает!*

Толькі замест "желтолицых чертей" у арыгінале афіцыйны Менск мае "казлоў на Захадзе" і такіх "сяброў на Ўсходзе", з якімі ворагі ўжо не патрэбныя. А "сапраўдны брат Уга" надта далёка…

Спробы ж мабілізаваць насельніцтва краіны, якое ўжо стамілася на доўгабудзе "моцнай і квітнеючай Беларусі", на падтрымку Лукашэнкі вялікага поспеху не маюць. Ягоны рэйтынг ізноў паўзе ўніз – у чэрвені да 29%. Ні чырвона-зяленыя сцягі, ні танкі на парадзе тут не дапамога: наўрад ці яны ўспрымаюцца колькі-небудзь значнай колькасцю насельніцтва ў якасці святыняў, здольных натхніць на абарону Бацькаўшчыны ад супастатаў, якіх не існуе ў прыродзе.

Лукашэнка усяляк імкнецца замарудзіць бег часу і мае ў гэтай справе пэўныя поспехі. Аднак цалкам застапарыць яго немагчыма.

Як "не спыніць, не стрымаць" знакамітую Пагоню.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

**НАВІНА**

## ЧАМУ НЕ ЗАРЭГІСТРАВАЛІ ГРУПУ УСА

**Прычынай былі названы парушэнні ў падачы спісаў сяброў ініцыятыўнай групы.**

Паводле слоў старшыні Цэнтрвыбаркама, адна з удзельніц спісу Уса напісала заяву, што не давала згоду на ўключэнне ў групу. Акрамя таго было выяўлена 49 разыходжанняў паміж прадстаўленымі і рэальнымі пашпартнымі дадзенымі пра ўдзельнікаў.

**Лідзія Ярмошына:** *«Як мы бачым з прадстаўленых дакументаў, маецца іх фіктыўнасць. Каля 50 разыходжанняў у дакументах. Паверце, ніводны б подпіс, калі б ішоў збор подпісаў, пададзены пры такім разыходжанні пашпартных дадзеных, не мог бы прызнавацца сапраўдным. Калі чалавек прэтэндуе на права ўносіць змены ў нацыянальнае заканадаўства краіны, то ён павінен быць прынамсі пісьменным, ведаць законы і адпаведным чынам рыхтаваць дакументы».*

Нагадаем, што экс-кандыдат у прэзідэнты і экс-палітвязень Дзмітрый Ус спрабаваў зарэгістраваць ініцыятыўную групу, каб арганізаваць змены ў выбарчае заканадаўства. Ус кажа, што ніводзін подпіс не быў сфальсіфікаваны. Ён выказаў меркаванне, што некаторыя людзі прыйшлі па чыімсьці заданні, каб зладзіць правакацыю.

# ЦІ ВЕРЫЦЕ ВЫ Ў ТОЕ, ШТО ЎЛАДА Ў КРАІНЕ НЕ БУДЗЕ ПЕРАДАВАЦЦА Ў СПАДЧЫНУ?

Не так даўно кіраўнік дзяржавы падчас візіту ў Венесуэлу сказаў літаральна наступнае: “Тое, што ў Венесуэле мой сын Мікалай, сведчыць аб тым, што ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20–25”. Цяпер ён сцвярджае, што не гатоў перадаваць “эстафету” ніводнаму са сваіх трох сыноў. Дык якому Лукашэнку верыць? На гэтую тэму разважаюць эксперты “Тут і цяпер”.

**АНДРЭЙ ЯГОРАЎ, ПАЛІТОЛАГ:**

### “БЕЛАРУСЫ ДОСЫЦЬ РАЦЫЯНАЛЬНЫЯ І РАЗУМЕЮЦЬ, ШТО НЯСЕ ДЫКТАТУРА”.

— Як паказвае досвед дыктатур на тэрыторыі сучаснай Еўропы, яны ніколі не перадаваліся ў спадчыну: усе дыктатуры існавалі да таго часу, пакуль жыў сам дыктатар. Таму ў Беларусі, як у еўрапейскай краіне, гэта малаверагодна. Але ж гэты чалавек можа разглядаць розныя рэчы, нават самыя неверагодныя. Мне здаецца, мы не дажывём да таго часу, калі гэтая магчымасць стане не гіпатэтычнай, а рэальнай. Мне хацелася б верыць, што беларусы ўсё ж такі справяцца з гэтай праблемай да таго часу, калі прыйдзецца выбіраць паміж працягам спадчыннай дыктатуры і пераходам да нейкага іншага ладу жыцця ў краіне. Беларусы досыць рацыянальныя і разумныя і разумеюць, што дыктатура сёння — гэта асноўная прычына, якая тармозіць і развіццё краіны, і лёс народа, і перашкаджае нармальнай будучыні дзяцей. Таму мы павінны вырашыць гэтую праблему на працягу жыцця хаця б майго пакалення.

**ВАЛЯНЦІНА СЯДЫХ, ЮРЫСТ:**

### “СПАДЧЫННАЯ ЎЛАДА — НАЙБОЛЬШ ВЕРАГОДНЫ СЦЭНАРЫЙ”.

— Дзе мы такое можам бачыць? У Паўночнай Карэі, Сірыі і ў Азербайджане. Але ва ўсіх пералічаных краінах такое магчыма таму, што сапраўдная ўлада ёсць у нейкага пануючага клана, унутры якога трэба падтрымліваць раўнавагу. Вось няма Кім Чэн Іра, і што? Цяпер будзе які-небудзь Хунь Юнь Сунь? Дык ён жа ўсіх перастраляе. І для таго каб была раўнавага, ставіцца сынок. Гэта, вядома, вядзе да дэградацыі як самой сістэмы, так і ўсёй краіны. Але сістэма ратуе найперш сябе, а не краіну. У Беларусі існуе ўлада, якая заточана на тое, каб захаваць кіруючу кліку. У нас ужо ўсё ў парадку з дэградацыяй. Грамадзянскай супольнасці няма. Найбольш актыўныя звальваюць з краіны.

Здарыўся такі казус, што наша “Афрыка” апынулася ў Еўропе, і што? Геаграфія нас ні ад чаго не бароніць і не прапаноўвае нам ніякіх стандартаў. Але ў такіх сістэмах часам спрацоўвае іншае: калі ў кліцы захоўваецца раўнавага — гэта добра, а калі яна страчваецца, то гэта заканчваецца пераваротам. Прычым здзяйсняе яго выхадзец з той жа самай клікі. Такі сцэнарый найбольш верагодны.



*Усё ў гэтым свеце дыялектычна*

**АЛЯКСАНДР СТАРЫКЕВІЧ, ЖУРНАЛІСТ:**

### “ТАКІ СЦЭНАРЫЙ НЕ ДЛЯ ЦЯПЕРАШНЯГА ЧАСУ І НЕ ДЛЯ ДАДЗЕНАГА МЕСЦА”.

— Я не веру ў магчымасць перадачы ўлады ў спадчыну. Можна шукаць тлумачэнні, аднак вера не заўсёды грунтуецца на нейкіх аб’ектыўных чынніках. Я ўсё ж такі думаю, што наша грамадства пры ўсіх яго заганах не да такой ступені безнадзейнае, каб у краіне запанавала спадчынная манархія. Пытанне нават не ў тым, што гэта выкліча нейкае надзвычайнае абурэнне ў краіне і грамадзяне ўсе як адзін выйдуць на вуліцы і гучна скажуць: “Не!”, “Досыць!”, “Хопіць!” і гэтак далей. Я думаю, што такі сцэнарый перадачы ўлады не для цяперашняга часу і не для дадзенага месца.

**ЮРЫЙ ХАШЧАВАЦКІ, РЭЖЫСЁР:**

### “ЯК ГАЙКА НА ПУПЕ ГЭТАГА РЭЖЫМУ”.

— Я веру, што будзе такая спроба. Я перакананы ў гэтым. Але пры гэтым упэўнены яшчэ і ў тым, што нічога з гэтага не атрымаецца, таму што Аляксандр Рыгоравіч, як у тым анекдоце, — гайка на пупе ў гэтага рэжыму. Гайку адкруціш, і ўсё адваліцца. Ніхто іншы не здолее трымаць у такім страху абсалютна ўсіх. Абавязкова знойдуцца людзі, якія пачнуць змагацца адно з адным, прычым да самазнішчэння. Між тым ні ў каго з іх не існуе ніякай магчымасці ўтрымацца ля гэтай улады, бо, акрамя ўсяго іншага, Лукашэнка давёў краіну да таго, што ў такім выглядзе яна ўжо не можа трымацца. Патрэбны будуць іншыя людзі і іншая канцэпцыя. Пакуль усё трымаецца на страху перад Лукашэнкам, але як толькі яго не стане, усё пачне развальвацца.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

**Ніякай перадачы ўлады ў спадчыну ў Беларусі быць не можа, заявіў сёння Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**

*“Я са здзіўленнем чытаю і чую пра тое, што вось тут Лукашэнка — гэта назаўсёды, гэта навечна, — сказаў ён. — У які раз кажу, не апраўдваючыся перад вамі: мае дзеці прэзідэнцтва наеліся пры сваім бацьку. Ніякай перадачы ўлады ў спадчыну быць не можа”.*

# ЯК АПАЗІЦЫЯ І ЎЛАДЫ РЫХТУЮЦЦА ДА ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАЎ?

Старт парламенцкай кампаніі дадзены. І адразу стала зразумела, што, па вялікім рахунку, да яе не гатовы ні ўлады, ні апазіцыя. Чаму так адбываецца, спрабавала высветліць "Тут і цяпер".

**ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ, ЖУРНАЛІСТ:**

### "АРЫШТ ПАЧОБУТА — ГЭТА ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЫБАРАЎ".

— Падрыхтоўку я бачу, аднак выключна з боку ўлады. Арыштавалі Анджэя Пачобута. Гэта падрыхтоўка да парламенцкіх выбараў. У нас заўсёды яна заключаецца ў тым, каб усюды навесці парадак. На палітычным полі парадак з большага наведзены. Усе актыўныя ці ўжо пабывалі за кратамі і сталі пасіўнымі, ці яшчэ знаходзяцца за кратамі. Трэба неяк яшчэ зачысціць і медыйную сферу. І вось, здаецца, арышт Пачобута па такім паказальным артыкуле з'яўляецца гучнай праявай і паказчыкам таго, як у нас будуць рэагаваць на нейкія дзёрзкія паводзіны медыйнага поля. І яшчэ адна акалічнасць: беларускія выбары заўсёды праходзяць з аглядкай на пазіцыю Масквы і Еўропы. Тая ці іншая стратэгія выбараў абапіраецца на тое, якія ў нас зараз адносіны з Расіяй і з Еўрасаюзам. І тое, што Пачобута зараз арыштавалі, дэманструе, што беларускі рэжым можа зараз гэта сабе дазволіць. Сёння знешнія акалічнасці, кан'юнктура адносін з Масквой і з Бруселем скалаліся так, што журналіста можна змяшчаць пад варту і нічога за гэта не будзе. Што тычыцца апазіцыйнага боку, то я не бачу ніякіх медыйных праяў таго, што апазіцыя нібыта рыхтуецца да парламенцкіх выбараў. Яна напярэдадні пасварылася на Радзе інтэлігенцыі, высветліла адносіны, і на гэтым, здаецца, усё скончылася. Дагэтуль няма адзінай стратэгіі і разумення таго, якім будзе план удзелу ў выбарах.

**АНДРЭЙ ЯГОРАЎ, ПАЛІТОЛАГ:**

### "НЯМА ДА ЧАГО РЫХТАВАЦЦА".

— Ніякіх сапраўдных выбараў не будзе, таму няма да чаго рыхтавацца. Палітычная апазіцыя заявіла два абсалютна бессэнсоўныя сцэнарыі: адзін называецца "байкот", а другі — "удзел". Ні той, ні другі пры адсутнасці яднання сэнсу не мае, калі апазіцыя раз'яднаная і выбаршчык абсалютна не разумее розніцы паміж усімі гэтымі лідарамі і іх стратэгіямі. Уся актыўнасць апазіцыі ператвараецца проста ў незразумелую мітусню. І ніякіх рацыянальных падстаў гэтаму няма. А ўладам увогуле хвалявацца няма пра што, але ж яны захоўваюць пэўную прастору для манеўраў у гэтай сітуацыі. Таму што праз выбары, калі адбудзецца выпуск палітвязняў і выбарчы працэс будзе хоць трошкі лібералізаваны, гэта дасць падставы для наладжвання новых адносін з Еўрапейскім Саюзам. Але паколькі з поўнай ірацыянальнасцю ў сітуацыі з палітвязнямі ўлады не ідуць на нармальныя крокі, то і тут я б не разлічваў на нейкі лібералізм.



*Які парламент, такая і краіна*

**АФІЦЫЙНА**

ФПБ першай пачала вылучэнне сваіх прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі, паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе нацыянальнага прафцэнтра.

На пленуме Цэнтральнага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі 20 чэрвеня быў вылучаны 61 прадстаўнік у склад акруговых камісій. Такім чынам, пакладзены пачатак традыцыйна актыўнага ўдзелу нацыянальнага прафцэнтра ў выбарчай кампаніі па выбарах дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Усяго ў рэспубліцы сфарміравана 110 акруговых камісій, а гэта значыць, што толькі з улікам сённяшняга вылучэння ў рабоце 56% з іх прымуць удзел прафсаюзныя актывісты. Дарэчы, 15 з 61 прадстаўніка з'яўляюцца старшынямі раённых камітэтаў прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, многія — члены прэзідыума галіновага прафсаюза.

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### "ТРЭБА РАЎНЯЦЦА НАШЫХ ПРОДКАЎ".

— Улада дакладна ўжо падрыхтавана да выбараў. Ёй засталося толькі кіраваць запушчаным працэсам. А што тычыцца апазіцыі, то ў такім непадрыхтаваным стане яна яшчэ і збіраецца ўдзельнічаць. Былі меркаванні і размовы, але грунтоўнай крытыкі (не ў сэнсе спрэчкі, а крытыкі як выпрацоўкі стратэгіі) не было. Таму кожны паводзіць сябе згодна са сваім асабістым адчуваннем сітуацыі. Ніякага супрацьстаяння ўладам з боку апазіцыі няма. Ёсць асабістыя дзеянні асобных людзей. Гэта адзінкі, як моські супраць слана. Моська брэша на слана ў той байцы дзеля таго, каб зрабіць выгляд, што яна моцная. А ў старажытнасці нашы продкі палявалі на мамантa. Яны не брахалі на мамантаў і не калолі іх сваімі дзідамі паасобку. Яны гуртаваліся, выпрацоўвалі стратэгію і тактыку. І таму малыя, слабыя, з вельмі прымітыўнай зброяй першабытныя людзі маглі заваліць маманта дзякуючы розуму, а не сваёй сіле, дзякуючы здольнасці да кансалідацыі. Вось што трэба і сёння. Улада моцная. Улада кантралюе сілавыя структуры, грашовыя патокі, сродкі масавай інфармацыі і гэтак далей. Можна на гэта брахаць, як моська. І такіх жадаючых шмат. А можна супрацьпаставіць гэтаму кансалідаваны адказ грамадзянскай супольнасці, з якім улада, маючы ўсе гэтыя рэсурсы, нічога не зможа зрабіць.

**ВАЛЯНЦІНА КРАЎЦЭВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

### "ХОПІЦЬ НАС ДУРЫЦЬ".

— Я не люблю, калі з мяне робяць ідыётку. Як адны, так і другія. Пра якія выбары ў нашай дзяржаве можна ўвогуле гаварыць, калі за кратамі сядзяць палітыкі? Калі няма нармальнага падліку галасоў? Калі ўсё кантралюе адзін чалавек? Ды нават калі людзі баяцца ўголас выказваць свае палітычныя думкі?

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# АЛІНА ЯРАШЭВІЧ: «МОЖА, ХТОСЬЦІ І З'ЯЖДЖАЕ, АЛЕ ТУТ НАШЫЯ МАГІЛЫ»

30 чэрвеня, пасля 9-дзённага арышту, з гарадзенскай турмы выпушчаны падпадпіску аб нявыездзе беларускі журналіст польскай «Газеты выборчай» Андрэй Пачобут.

Тым не менш абвінавачванне па 367-м артыкуле КК, частцы другой - «паклёп на прэзідэнта» з яго не знята. Гэта ўжо паўторнае абвінавачванне і арышт на працягу года - у ліпені 2011 яго асудзілі па гэтым жа артыкуле на 3 гады зьняволеньня з адтэрміноўкай прысуду.

За суткі да яго вызвалення мы пагутарылі аб магчымых прычынах такой пільнай увагі ўладаў да персоны журналіста і старшыні рады незарэгістраванага Саюза палякаў у Беларусі (СПБ) з яго паплечніцай, краўнічкай Брескай філіі СПБ Алінай Ярашэвіч.



**– Якія, па-вашаму, прычыны паўторнага арышту вашага калегі Андрэя Пачобута? Што было мэтай дзеянняў сілавікоў?**

– Гэта трэба разумець у кантэксце актуальнай палітыкі, палітыкі апошніх тыдняў. Гэта следства чарговага абвастрэння адносін Беларусі і Захаду. Тэндэнцыя такая, што наша ўлада ідзе на крайнія меры. Мы бачым, як пагоршылася сітуацыя з Мікалаем Статкевічам. Прагучалі ад улады і іншыя вострыя, непрадуманыя выказванні. Магчыма, за арыштам Андрэя Пачобута будуць нейкія іншыя дзеянні, напрыклад, таргі палітвязнем.

**– Чаму такая цікавасць менавіта да персоны Пачобута?**

– Андрэй - таленавіты журналіст, вельмі смелы чалавек, які амаль нічога не баіцца, такі, ведаеце, «бяду рукамі развяду». Бывае, мы абмяркоўваем у радзе Саюза складанае пытанне, я ў паніцы наогул. А ён прыйдзе, пажартуе, параіць - і ўсё робіцца такім простым, зразумелым. У яго ёсць талент быць лідэрам, быць аўтарытэтам, быць сапраўдным мужчынам, што цяпер сустракаецца вельмі рэдка. У нас у краіне «сапраўднымі мужчынамі» з'яўляюцца Марына Коктыш, Ірына Халіп, Святлана Калінкіна і гэтак далей. Мужчыны у нас нейкія загнанныя.

А такія як Андрэй або яшчэ Статкевіч - гэта тыя, каго па-польску называюць «maz stanu» (дзяржаўны дзеяч, які кіруецца выключна інтарэсамі сваёй краіны – нататка аўтара). Так казалі аб Пілсудзкім (прыбраць Валэнсу). Відаць, такія людзі ўладам не да спадобы.

**– Шматлікія эксперты-палітолагі лічаць гэты арышт чарговай спробай запалохвання беларускіх журналістаў. Вы, як рэдактар квартальніка «Эха Палесся», адчуваеце ўзмацненне прэсінгу?**

– Дзякуй Богу, мы не адчуваем асаблівага прэсінгу, мажліва, з-за спецыфікі нашага выдання. Наш часопіс гісторыка-краязнаўчы, у ім мы не кранаем круг сучасных сацыяльна-палітычных пытанняў. Напрыклад, апошнія два гады мы публікуем матэрыялы цыклу пра малыя радзімы, беларускія гарадах, мястэчкі, вёскі: пра Пінск, Пружаны, Крошын і г.д., рыхтуецца нумар, прысвечаны Ружанам. Пра ўсё гэта мы пішам з вялікай любоўю. І я спадзяюся, гэтыя тэмы знаходзяцца па-за зонай інтарэсаў палітыкаў і спецслужбаў. А за гістарычныя паралелі нас пакуль не чапаюць.

Але калі такая тэндэнцыя працягнецца, хваля пойдзе далей, я не выключаю, што і нас закране. Маральна мы гатовыя да праблем.

**– Ці Вы прадчуваеце магчымасць пертрусаў у сваім філіяле Саюза палякаў, як гэта здарылася на мінулым тыдні ў Гродне?**

Пакуль, на шчасце, усё ціха. Мы спадзяемся на разважлівасць мясцовай вертыкалі. Я перакананая, што нават у аддзелах ідэалогіі напэўна ёсць людзі са здаровым розумам, якія любяць сваю краіну і жадаюць ёй дабра. Хоць не ўсе мае калегі падзяляюць гэта меркаванне. Фактычна грамадзянская супольнасць у Беларусі і так раздушаная, яе амаль не існуе. Але ж гэта вельмі дрэнна для краіны: нарастае сацыяльнае напружанне, няма недзяржаўных арганізацый, якія ствараюць крэатыў, ўвасабляюць масу праектаў, добрых спраў, без якіх не можа існаваць грамадства.

**– Жонка Пачобута ў адным з нядаўніх інтэрв'ю казала, што яе муж, нягледзячы на яўны пераслед, не хоча эміграваць. А якія настроі ў асяроддзі польскай дыяспары ў Брэсце?**

– Ну, можа, у моладзі яшчэ праслізгваюць такія думкі, хтосьці з'яжджае. Але мы, старэйшае пакаленне, любім сваю краіну, свае маленькія радзімы. Тут наша культура, тут нашы блізкія, тут нашы магілы. Дзіўна, але за ўсе гэтыя гады ў нас не адбілі жаданне ствараць нягледзячы ні на што ўласнае маральную, эстэтычную, інтэлектуальную прастору вакол сябе.

Мы не аддзяляем сябе ад агульнай беларускай культуры. Для нас каштоўныя як традыцыі Ягелонаў, так і гісторыя Вялікага княства Літоўскага. І вельмі сумна, што нам увесь час мяшаюць ўвасабляць нашы праекты, вымушаюць жыць і працаваць у атмасферы пастаяннага страху.

Нашай польскай школе ў Брэсце ў наступным годзе будзе 25 гадоў. І я магу сказаць, што заўсёды было нялёгка. Нават проста правесці фестываль сучаснага мастацтва, конкурс песні ці канферэнцыю. Усё гэта часцей за ўсё канчалася выклікам «на дыван».

Але ў сваёй працы мы дзейнічаем, як і польскія пазітывісты 19 стагоддзя.

Калі не дазваляюць умовы, калі немагчыма адкрыта рэалізаваць праекты, якія з'яўляюцца нормай у дэмакратычным грамадстве, мы шукаем іншыя шляхі данесці моладзі, што свабода - усярэдзіне чалавека: праз выставы, літаратуру, адукацыйныя праекты, праз духоўнае, інтэлектуальнае і грамадзянскае выхаванне. Тым больш, што толькі такая культурна-адукацыйная дзейнасць і запісана ў статуце нашай арганізацыі.

Я часта сустракаюся з пажылымі людзьмі. І вельмі здзіўляюся, як выдатна яны разумеюць сутнасць праблем у нашай краіне. Нядаўна ў двух розных месцах пачула аднолькавае меркаванне, калі ж нам стане лепей жыць. «Я малюся за тое, каб ўпала цана на нафту», - сказаў мне 80-гадовы стары ў Баранавічах. Яны разумеюць, што наша сітуацыя патавая, Беларусь - разменная манета ў гульні вялікіх дзяржаў.

У той жа час я параўноўваю вучняў розных гадоў. І заўважыла, што за апошнія 6-7 гадоў прыйшло пакаленне больш абыякавых і вельмі прагматычных маладзенаў, без рамантыкі, без рызыкі. Яны не любяць, не жадаюць і не ўмеюць дыскутаваць нават на самыя аддаленыя ад палітыкі тэмы. А нават калі мы вучыліся ў школе пры Савецкім саюзе, мы абмяркоўвалі самыя вострыя і цяжкія праблемы.

Як бы гэтая наша сітуацыя напружанасці, несвабоды, якая доўжыцца дзесяцігоддзямі, не забіла ў беларусах душу, пачуццё чалавечай годнасці, творчага палёту, я ўжо не кажу пра нацыянальную самасвядомасць. Няма нават надзеі, веры ў лепшую будучыню, якія былі ў нашых ранейшых гутарках на кухні пры Саветах.

Раней гэтую надзею давала яшчэ і вера. Зараз я назіраю ў шматлікіх велізарнае расчараванне, таму што рэлігійныя інстытуты ў нашай краіне сталі часткай палітычнай сістэмы, зліліся з дзяржавай. Некаторыя як праваслаўныя,так і каталіцкія святары ператварыліся ў шрубкі сістэмы, з-за чаго страцілі аўтарытэт сярод вернікаў.

**– Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года шэраг грамадскіх арганізацый страціў сваіх членаў. Ці назіраўся адток ў мясцовым Саюзе палякаў?**

Ну, ад нас асабліва не сыходзілі, таму што тут яшчэ шмат чаго падаграваласяКартай паляка. Наадварот, з той зімы паболела сябраў, бо людзі жадаюць удзельнічаць у нашых структурах – ва Ўніверсытэце трэцяга веку, Клубе каталіцкай інтэлігенцыі, с танцавальных таварыствах і хорах, в теэтрыках, в выдаўніцтве “Эх Палесся” і газэткі “Брэст каталіцкі”, в прахах па ўпарадкаванню могілак і г. д. Жыцце менавіта нашай арганізацыі бурліць, кожны тыдзень адбываецца нешта пазытыўнае.

Але што тычыцца наогул беларускага трэцяга сектара, то шмат хто расчараваўся, людзі губляюць актыўнасць. Яны бачаць, як безнадзейна слабая і не паслядоўная ў сваёй падтрымцы дэмакратычнага супольнасці Еўропа, як недастаткова моцна падтрымлівае нас Амерыка. Усе гэта ускладняецца таксама і непаразуменнямі ўнутры беларуская апазіцыі.

**АЛЕНА БАРТАШЭВІЧ**



*Польша для нас больш чым суседка*

# БАДАЎСЯ НАФТАВІК З “БЕЛАРУСНАФТАЙ”

**Напрыканцы чэрвеня гаспадарчы суд Гомельскай вобласці пастанавіў спыніць разгляд пазову вытворчага аб'яднання “Беларуснафта” да пенсіянера Васіля Гулая з Рэчыцы. Гэтаму папярэднічала міравое пагадненне бакоў.**

Васіль Гулай у свой час дваццаць два гады адпрацаваў матарыстам цэментовачнага агрэгата ў нафтавым аб'яднанні, дакладней, у Рэчыцкім тампанажным упраўленні.

У 1986 годзе, калі выбухнуў чацвёрты энергаблок Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, 32-гадовага матарыста і іншых спецыялістаў кінулі ў самае пекла дапамагаць узводзіць саркафаг над разбураным рэактарам — такую бетонную кашулю, каб суняць выкід смяротна небяспечных ізатопаў.

“Я і ўсе, хто са мной тады працаваў, былі менавіта з тампанажнага ўпраўлення, — узгадвае Васіль Гулай. — Каля цэнтральнага ўваходу мы размясцілі свае агрэгаты і гналі вадкі цэмент на гэты саркафаг. Дваіх з нашых паслалі на адкрытыя промні. Яны раскочвалі трубы. Аднаго ўжо няма на свеце, а другі, як кажуць, на ладан дыхае”.

Пасля першай камандзіроўкі на Чарнобыльскую АЭС і невялікага адпачынку Васіля і такіх жа, як ён, тампанажнікаў накіравалі на 20 дзён у 30-кіламетровую зону ў Нараўлянскі раён. Бурылі і мацавалі Радамлянскую свідравіну № 10, каб запампаваць у нетры з каналаў вакол АЭС радыеактыўную ваду. Але зямля чамусьці не прыняла тую ваду, і задуму пакінулі.

У 1987 годзе Васіля меліся і трэці раз паслаць у "зону", але медыкі заўважылі ў кардыяграме яго сэрца нейкія агрэхі і больш не чапалі яго.

Яшчэ працуючы ў Нараўлянскім раёне, Гулай пачаў дапамагаць сваім калегам, каб ім залічылі работу як камандзіроўку ў “зону”. Неўзабаве ён стварыў у Рэчыцы ці не першую ў краіне грамадскую арганізацыю чарнобыльцаў і пачаў дамагацца павышэння рабочай кваліфікацыі тампанажнікаў: у каго быў пяты разрад, той атрымаў шосты. Для некаторых катэгорый адміністрацыя змушана была ўвесці 7 і 8 разрады. Каля сотні рабочых былі ўдзячныя Гулаю.

Аднак кіраўніцтву гэта не надта падабалася. Дробныя начальнікі пачалі цікавацца за “абаронцам рабочых”, лавіць на розных дробязях. І ўрэшце звольнілі нібыта за сістэматычнае парушэнне працоўнага распарадку.

*Заканчэнне на стар. 8*

# «ЛАЙТСАЎНД»: «НАС ЗНЯЛІ З УСІХ ТЭЛЕВІЗІЙНЫХ ЭФІРАЎ»

Як склаўся лёс гурта "Лайтсаўнд" пасля паездкі на "Еўрабачанне"? Ці будуць музыкі выступаць на "Славянскім базары"? Ці маюць яны намер яшчэ раз паспрабаваць пакарыць "Еўрабачанне"? На гэтыя і іншыя пытанні адказаў дырэктар гурта "Лайтсаўнд" Юрый Каракін.



*Еўрабачанне для нас заўсёды велізарная бітва*

**— Шчыра кажучы, нешта даўно пра вас нічога не было чуваць...**

— Так, мабыць, і не будзе ў найбліжэйшы час. Нас фактычна спрабуюць знішчыць, але гэта немагчыма, бо ў нас велізарная армія прыхільнікаў не толькі па краіне, але і за мяжой; падпісана некалькі кантрактаў з замежнымі прадзюсарскімі цэнтрамі.

Нас знялі з усіх тэлевізійных эфіраў, канцэртаў і афіцыйных мерапрыемстваў. Дадзена адпаведная каманда зверху (наколькі я разумею, з Міністэрства культуры і Адміністрацыі прэзідэнта).

**— Вы так смела пра гэта заяўляеце: прама з міністэрства, адміністрацыі...**

— А мы ўчора былі ў міністра на прыёме — спрабавалі высветліць некаторыя пытанні. Можна сказаць, што размова не атрымалася: нас фактычна папрасілі з кабінета. А яшчэ міністр сказаў, што ў нас забароненых гуртоў няма наогул.

**— А вы ўжо адносіце сябе да забароненых груп?**

— Мы прывялі міністру канкрэтныя прыклады, калі і ў якія канцэрты мы былі ўключаны і афіцыйна праінфармаваны аб гэтым, а затым нас выкінулі. І ў рэшце рэшт я дамогся адказу ад рэжысёраў мерапрыемстваў: яны сказалі, што ім дадзена распараджэнне зверху.

На сустрэчы прэзідэнта з таленавітай моладдзю (куды, дарэчы, "Лайтсаўнд", пераможца дзвюх нацыянальных прэмій 2011 года, не быў запрошаны) прагучала, што група "Лайтсаўнд" арганізавала на "Еўрабачанні" нейкую бойку. І на пытанне прэзідэнта, ці сапраўды гэта было, міністр, як нам распавялі, пацвердзіў: так, гэта было на самай справе. Хоць насамрэч бойкі не было, і мы ўжо не раз расказвалі пра гэта! А на тое, што прайшло ў літоўскай прэсе пра бойку, мы спачатку махнулі рукой, але, як аказалася, дарэмна, таму што з гэтай таннай ілжывай сенсацыі раздулі ледзь ці не сусветны скандал.

> Ну ніхто ж не думае, што ўсё павярнуцца так. І ўсе лічаць, што з імі такое дакладна не здарыцца.

**— А з якой нагоды наогул вы хадзілі на прыём да Латушкі?**

— Па выніках "Еўрабачання". Мінуў месяц, але прафесійнага абмеркавання вынікаў выступлення на "Еўрабачанні" так і не было, а трэба было пагаварыць пра гэта. Аднак аказалася, што наша меркаванне наконт гэтага міністра не цікавіць.

**— Ён вас паклікаў або вы самі запісаліся?**

— Гэта была наша ініцыятыва. Назбіралася шмат пытанняў, у тым ліку і дзіўная сітуацыя, калі ўсе запрашэнні групы "Лайтсаўнд" на афіцыйныя мерапрыемствы і канцэрты анулявалі, у нас нават не было ні аднаго выступу на Дні незалежнасці!

**— Дык можа, вы патрабуеце занадта вялікі ганарар?**

— Які ганарар, пра што вы кажаце?! Гаворка ідзе пра дзяржаўныя канцэрты, там усім артыстам плацяць стандартную стаўку.

**— А на "Славянскі базар" вы едзеце?**

— Як высветлілася, ужо не. Мы павінны былі выступаць на адкрыцці фестывалю, людзі купілі квіткі, мы былі ў афішы, але нам сталі паступаць паведамленні ад гледачоў пра тое, што нас ужо знялі з праграмы. Мы пачалі разбірацца, тэлефанаваць рэжысёру, а ён кажа: вас няма ў праграме.

Наогул гэта вельмі дзіўна. Чыноўнікі запрашаюць за вялікія грошы замежных удзельнікаў "Еўрабачання" са Швецыі і іншых краін, а свайго ўдзельніка, якога абраў народ супраць волі гэтых чыноўнікаў, выкідваюць з праграмы. Я лічу, што гэта проста непавага да свайго народа.

**— І чым вы самі тлумачыце такое стаўленне да сябе?**

— Тлумачыцца гэта ўсё проста, на мой погляд: міністр культуры пасля "Еўрафэсту" атрымаў вымову за фальсіфікацыю вынікаў фіналу нацыянальнага адбору. А вінаватымі ў гэтым аказаліся нібыта мы. Мне здаецца, гэта падобна на помсту...

**— Вы думаеце, міністр культуры будзе помсціць за нейкую незразумелую вымову?**

— На сустрэчы стала зразумела, што ён пра вымову добра памятае.

**— Дарэчы, пра "Еўрафэст". Калі я правільна зразумела, абмежаваліся вымовамі і звальненнем прадзюсара Дзмітрыя Баранава. Крымінальную справу ніхто не ўзбуджаў?**

— Не, наколькі нам вядома, вымовы раздалі, і ўсё на гэтым.

Мяне, дарэчы, вельмі здзівіла адно выказванне міністра падчас нашай размовы. Калі я правільна зразумеў, ён лічыць, што наша паездка на "Еўрабачанне" першапачаткова была няправільным ходам. Ён лічыць, што павінна была паехаць спявачка, якая выйграла дзякуючы фальсіфікацыі, а нам бы далі абяцанне, што мы паедзем на "Еўрабачанне" на наступны год, тады б у нас засталося больш часу на падрыхтоўку. Затым мы праслухалі міні-лекцыю аб тым, што Міністэрства культуры нікога не забараняе і аднолькава добра ставіцца да ўсіх артыстаў і што групу "Лайтсаўнд" уключылі ў праграму дня закрыцця фестывалю.

А яшчэ міністр сказаў, што калі мы лічым, што ён нас публічна абылгаў перад прэзідэнтам (гэта пра гісторыю з бойкай), то мы можам падаць

на яго ў суд. Ну хіба гэта нармальна?

**— Не шкадуеце, што наогул увязаліся ў гэтую гісторыю з "Еўрабачаннем"?**

— Не, не шкадуем. Барацьба ўмацоўвае сілы.

**— Чытала, што Дзмітрый Калдун заявіў пра намер яшчэ раз трапіць на "Еўрабачанне". А ў вас няма такога жадання?**

— Мы пакуль не ведаем, што будзе далей, і на далёкую будучыню не загадваем. Можа, і паспрабуем яшчэ раз.

Зараз плануем падрыхтаваць прэс-канферэнцыю і серыю артыкулаў па тэме "Закуліссе "Еўрабачання".

**— І пра што будзеце пісаць?**

— Наш выпадак унікальны тым, што была раскрыта фальсіфікацыя выбару выканаўцы, што прывяло да мноства праблем. На конкурс фактычна паехаў "прадукт", цалкам "прыгатаваны" Белтэлерадыёкампаніяй. Мы практычна ні на што не маглі паўплываць.

**— Гучыць наіўна: калі вы былі не задаволены пастаноўкай нумара ці яшчэ чымсьці, то маглі б умяшацца.**

— Мы падпісалі кантракт, згодна з якім штрафныя санкцыі складаюць каля 200 тысяч еўра. Мы маглі не згаджацца на нейкія прапановы, нават адмовіцца выйсці на сцэну, але ў такім выпадку нам давялося б прадаць усю маёмасць і выплаціць штрафныя санкцыі, кампенсаваць усе выдаткі НДТРК.

**— Паслухаеш вас і падумаеш: ды навошта наогул імкнуцца трапіць на гэты конкурс, калі потым чакаюць такія наступствы?!**

— Ну ніхто ж не думае, што ўсё павярнуцца так. І ўсе лічаць, што з імі такое дакладна не здарыцца. Але, нягледзячы на гэта, мы ні пра што не шкадуем. Мы набылі вялікую колькасць прыхільнікаў у розных краінах, не толькі ў Еўропе; мы атрымліваем мноства слоў падзякі за нашу песню, у тым ліку з Аўстраліі, Афрыкі, Амерыкі; яна дапамагае людзям жыць. Гэта самае галоўнае для нас.

**МАРЫНА МІТ**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ З… ПУШКІНЫМ, ВАЛЁНКАМІ І МІКАЛАЕМ ІІ

Невядома каму быў прысвечаны нядаўні магілёўскі святочны тыдзень – нашай незалежнасці ці ухваленню "российского императорского величия".

Ў гэтым тыдні сышліся разам і міжнародны фестываль "Магутны Божа", і Дзень горада, і дзяржаўны Дзень незалежнасці.

І ўзнікае толькі адна думка -- што гэта было?. І не адразу знаходзіш адказ, бо, на жаль, ніводнае з пералічаных свят не адпавядала чысціні жанру.



## ЦАР МІКАЛАЙ ІІ І КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ З ДРАМТЭАТРАМ

Выпадкова апынуўся сярод гасцей-экскурсантаў, якія бесперапынна шчоўкалі фотаапаратамі замест таго, каб уважліва слухаць гіда-экскурсавода. Гэта была незнаёмая мне жанчына. Было бачна, што яна асоба цалкам афіцыйная, а не добраахвотнік на ніве аповедаў пра магілёўскія адметнасці. Побач з будынкам абласнога краязнаўчага музея ёй удалося згрупаваць людзей (чалавек 15), відаць, расіян, бо пачуліся такія словы, як "Стаўка цара", "Адрачэнне ад прастола". Прыслухаўся і я.

У такім вось напрамку і працягвалася асветніцкая гаворка каля будынка, які ў свой час сапраўды ўваходзіў у комплекс забудоў, аб'яднаных паняццем царскай стаўкі. Пра тое, што ў гэтым жа будынку пазней, а менавіта 12 ліпеня 1918 года, адбылася яшчэ і такая падзея, як губернская канферэнцыя мясцовых грамадскіх і палітычных арганізацый, 400 дэлегатаў якой практычна адзінагалосна (2 — супраць, 9 устрымаліся) падтрымалі ідэю незалежнасці Беларусі, — наша гід не сказала ні слова. І гэта ў Дзень горада, якому, між іншым, стукнула сёлета 745 гадоў.

У гэтым месцы я ад групы гасцей нарэшце "адляпіўся", ды і што тут было слухаць? Гаворка тут не пра цара Мікалая, які сапраўды меў у Магілёве стаўку і любіў прагульвацца па магілёўскіх вуліцах. Гаворка — пра нас саміх.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЕД І ПУШКІН

У прыгожым гарадскім скверы вакол фантана была наладжана выстава малюнкаў і карцін выхаванцаў Магілёўскай цэнтральнай мастацкай школы. Мала хто праходзіў міма пюпітраў, на якіх былі прымацаваны малюнкі, выкананыя ў вядомай усім прывабна-наіўнай манеры маленькага чалавека, які яшчэ толькі пачынае пазнаваць свет. Вось цікавая работа — від на Днепр з вышыні магілёўскага гарадскога вала. А вось Ратуша, што пасля аднаўлення стала адным з самых папулярных аб'ектаў для выяўлення мастацкага таленту не толькі маленькіх творцаў. Вось царква і кляштар у Падміколлі, таксама з вышыні птушынага палёту, бо гэты ансамбль і сапраўды месціцца ніжэй за гарадскую гарызанталь. А вось бытавая сцэнка — тыповы беларускі дзед пры вусах, у вышыванцы і пры капелюшы чытае ўнуку кніжку ў хаце. Кніжка павернута вокладкай да нас, гледачоў. На ёй чытаем — "Пушкин. Сказки".

Ды не. Добры паэт і творца той Пушкін Аляксандр Сяргеевіч. Але зноў жа, гаворка не пра яго. Гаворка пра нас саміх.

## ВАКАЛЬНА-ЭТНАГРАФІЧНАЯ КАПЭЛА І РУСЛАНАВА

Той самы сквер. Выступае вакальна-этнаграфічны ансамбль гарадскога Дома народнай творчасці. Мінакі спыняюцца, слухаюць, гучна апладзіруюць. Здалёк чуваць спевы галасістых жанчынак, што апрануты ў нацыянальныя строі. Адна песня змяняе другую. Міжволі апынаешся ў атмасферы знаёмых і таму родных музычных сугуччаў, якія сёння так рэдка можна пачуць у нашым папсовым акружэнні. І раптам – што гэта?! А гэта паляцела над скверам нейкая асаблівая недарэчная тут русланаўска-сталінская "Валенки-валенки…". Песня і папулярная была толькі таму, што яе любіла яшчэ тое, даўняе крамлёўскае начальства (за што яе выканаўца і сама песня пацярпелі, калі хто ведае савецкую ГУЛАГаўскую гісторыю). А ніякай асаблівай "народнасці" ні ў меладычнасці яе, ні ў словах куплетных няма, як мне неяк даводзіў знаёмы музыка. Але на гэтым не настойваю, бо не пра Русланаву і не пра гэтыя "валёнкі" гаворка тут…

А ўсё пра тое ж — пра нас саміх.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# БАДАЎСЯ НАФТАВІК З "БЕЛАРУСНАФТАЙ"

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 5*

Васіль тры гады быў без працы, перабіваўся выпадковымі заробкамі. А ў яго сям'я — жонка, двое сыноў.

Урэшце ліквідатар, маючы як чарнобылец права на бясплатны праезд у прыгарадным транспарце, выправіўся ў падарожжа. На дваццаці пяці дызельных цягніках і электрычках, на спадарожным транспарце з перасадкамі і чаканнямі Гулай дабраўся да распрацовак расійскіх нафтавых радовішчаў у Ямала-Ненецкай аўтаномнай акрузе, уладкаваўся на буравую "Раснафты" і працаваў там яшчэ 12 з лішнім гадоў, у дадатак да 22-х у "Беларуснафце".

Расійскія нафтавыя структуры не лепшым чынам абыходзіліся з беларусамі: нерэгулярна плацілі за іх у фонд сацыяльнай абароны, у выніку чаго не ўся праца на Поўначы залічвалася ў стаж.

Васіль пачаў звяртацца ў расійскі суд, каб аднавіць справядлівасць — за сябе і за дзясяткі іншых падманутых: "У Расіі стаўленне такое абыякавае: маўляў, мы вас нікуды не пасылалі, вы — з іншай краіны. Нам не давалі чарнобыльскіх водпускаў. Аднак у Расіі можна нешта даказаць праз суд. З горам папалам, але суды працуюць. Мне ўсё-такі ўдалося дапамагчы аднавіць працоўны стаж прыкладна паўсотні нафтавікам".




*Нафта нафтай...*

Сваю чарнобыльскую арганізацыю ў Рэчыцы Гулай абараніць не здолеў. Яе закрылі праз мясцовы суд з прычыны адсутнасці юрыдычнага адраса ў нежылым памяшканні. Тады Васіль уступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю.

Калі надышоў час выпраўляцца, як кажуць, на заслужаны адпачынак, у нафтавіка Гулая было цэлыя дзве пенсіі: расійская (за паўночныя промыслы) і беларуская (за работу матарыстам у Рэчыцкім тампанажным упраўленні).

Аднак у "Беларуснафце" пенсіянера Васіля Гулая за свайго не прызнавалі: маўляў, не з нашай арганізацыі пайшоў на пенсію. Іншых, у тым ліку і некаторых з тых, хто "дабіваў" працоўны стаж на нафтавых промыслах Расіі, сваім прызнавалі, а Васіля — не. Ні падзякі ў дзень нафтавіка, ні дапамогі, ні пуцёўкі ў санаторый… Да каго толькі ні звяртаўся былы нафтавік — нуль увагі. Нават у чарнобыльскую гадавіну Гулая высаджвалі з ведамаснага аўтобуса "Беларуснафты".

Сёлета ўвесну Васіль Гулай як абазнаны спецыяліст у маторах крытычна выказаўся наконт эфектыўнасці ўсталяваных на агрэгатах ан-700 ды іншай аўтатрактарнай тэхніцы прыбораў кантролю і ўліку расходу паліва. Не паверыў у эканомію, памер якой за год складае дзясяткі тысяч тон светлых нафтапрадуктаў. Напісаў пра гэта ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у рэспубліканскі Камітэт дзяржкантролю, у дзяржаўтаінспекцыю. Апрача таго, скрытыкаваў арганізацыю і ўмовы працы тых жа матарыстаў.

І тут Гулая заўважылі. Аб'яднанне "Беларуснафта" звярнулася ў гаспадарчы суд з пазовам пра абарону дзелавой рэпутацыі юрыдычнай асобы. Адказчык — Васіль Гулай, былы матарыст аб'яднання. "Беларуснафта" патрабавала ад яго абвергнуць інфармацыю і выплаціць мільённую дзяржпошліну.

У судзе прадстаўніца вытворчага аб'яднання "Беларуснафта" Людміла Лебедзева і Васіль Гулай знайшлі паразуменне — пайшлі наміравую. Былы нафтавік пагадзіўся даслаць на адрас Мінпрыроды і Камітэта дзяржкантролю лісты наступнага зместу: "Прашу прызнаць несапраўднай інфармацыю, прадстаўленую ў маіх заявах ад 25.03.2012 года на ваш адрас пра тое, што: "У выніку некалькі вёдзер паліва з кожнай машыны штодзённа проста вылятае незгарэлым у выхлапную трубу. Калі ўлічыць, што на агрэгатах ан-700 і на комплексах стаяць дызелі, падобныя на танкавыя, то яго вылятае на зямлю ў разы болей". Такая высновa зроблена на падставе праверак заяў Гулая прадстаўнікамі інспекцыі па экалогіі і Камітэта дзяржкантролю, якія не выявілі парушэнняў у РУП "Вытворчае аб'яднанне "Беларуснафта".

— Я палічыў, што кепскі мір лепшы, чым добрая вайна, тым больш з такім аб'яднаннем, як "Беларуснафта". Да таго ж выраз "паліва вёдрамі вылятае з выхлапной трубы" не адпавядае рэчаіснасці літаральна, бо мае вобразны характар, — тлумачыць сваю пазіцыю былы нафтавік Гулай.

"Беларуснафта" ў сваю чаргу адмовілася ад патрабавання поўнай выплаты Васілём дзяржаўнай пошліны. З 500 тысяч яму належыць заплаціць палову — 250 тысяч. Столькі ж пошліны прыпадае і на долю Беларуснафты.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 05.07.12
Тыраж 299 экзэмпляраў